ГЛЕБ ЛАБАДЗЕНКА

# ДЗІЦЯЧАЯ ЗАМОВА

ПРЫСВЯЧАЮ ГЭТУЮ
КНІГУ
ЮРАСЮ БУШЛЯКОВУ,
МАЙМУ (І НЕ ТОЛЬКІ МАЙМУ)
НАСТАЎНІКУ БЕЛАРУСКАЙ
МОВЫ

ПАПЕРУС



# СЛОВА ПРА „ДЗІЦЯЧУЮ ЗАМОВУ"

ПРАЕКТ „ДЗІЦЯЧАЯ ЗАМОВА" ЎЗНІК, МОЖНА СКАЗАЦЬ, РАПТОЎНА. МАЯ ЖОНКА ЎВЕСЬ ЧАС БЛЫТАЛА СЛОВЫ „ЦЯПЕР" І „ЗАРАЗ", ТАМУ Я ВЫРАШЫЎ НАМАЛЯВАЦЬ ДЛЯ ЯЕ ВОСЬ ТАКУЮ СХЕМУ:






ПОТЫМ ПАДУМАЛАСЯ, ШТО СХЕМА МОЖА БЫЦЬ КАРЫСНАЯ І ІНШЫМ ЛЮДЗЯМ, ТАМУ Я

АПУБЛІКАВАЎ ЯЕ Ў СВАІМ БЛОГУ. НЕХТА ПАПРАСІЎ: А ПАТЛУМАЧ РОЗНІЦУ МІЖ „САБЕ“ І „СЯБЕ“, МІЖ „ТАБЕ“ І „ЦЯБЕ“? І ТУТ Я ЗРАЗУМЕЎ, ШТО СХЕМАЮ ЎЖО НЕ АБЫСЦІСЯ. ТАК З'ЯВІЛІСЯ ВОСЬ ГЭТЫЯ ЧАЛАВЕЧКІ:







НАЗВА „ДЗІЦЯЧАЯ ЗАМОВА“ ПРЫДУМАЛАСЯ ВЕЛЬМІ ХУТКА.

„ДЗІЦЯЧАЯ“ — БО МАЛЮНКІ ПРОСТЫЯ, ЯК У ДЗЯЦЕЙ. А ЯШЧЭ ТАМУ, ШТО ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ — ДЗЕЦІ: ХЛОПЧЫК І ДЗЯЎЧЫНКА. НУ І ЎРЭШЦЕ ТАМУ,




ШТО МАЛЮНКІ ЗАКЛІКАНЫЯ ВУЧЫЦЬ ДЗЕТАК ПАЗБЯГАЦЬ ПАМЫЛАК У МОВЕ.

„ЗАМОВА“ — БО ТУТ І „МОВА“, І „ЗА МОВУ“, І „ЗАМОВА“ — ЯК

АБЯРЭГ, і „ЗАМОВА" ЯК ПРОСЬБА НАМАЛЯВАЦЬ НЕШТА КАНКРЭТНАЕ. ВОСЬ УСЁ ГЭТАЕ ДАЎГОЕ ТЛУМАЧЭННЕ і ЎВАБРАЛАСЯ Ў ДВА СЛОВЫ — „ДЗІЦЯЧАЯ ЗАМОВА". МАЛЮНАЧКІ ЧАСАМ СУБ'ЕКТЫЎНЫЯ. ПАДАБАЕЦЦА МНЕ НЕЙКАЕ СЛОВА — МАЛЮЮ, КАБ ЯНО ЎЖЫВАЛАСЯ ЯШЧЭ ШЫРЭЙ. ХОЧАЦЦА ПАКАЗАЦЬ НЕЙКАЕ КАНКРЭТНАЕ ЗНАЧЭННЕ СЛОВА — і ВОСЬ ЯНО НА МАЛЮНКУ.



ДАРЭЧЫ, УСЮ КНІЖКУ ПРАВЕРЫЛІ
САПРАЎДНЫЯ ФІЛОЛАГІ – ТАМУ ЁЮ
МОЖНА ЎПЭЎНЕНА КАРЫСТАЦЦА Ў
ШКОЛЕ. ДАБРАСЛАВІЎ ГЭТУЮ
КНІЖКУ І БЛІСКУЧЫ ЗНАЎЦА СЛОВА,
НАРОДНЫ ПАЭТ БЕЛАРУСІ РЫГОР
БАРАДУЛІН.
ПРОСТАСЦЬ МАЛЮНКАЎ –
НЕ АДМЫСЛОВЫ СТЫЛЬ, А ВЯР-
ШЫНЯ МАСТАЦКІХ ЗДОЛЬНАСЦЕЙ
АЎТАРА. АЛЕ ЯКО І ДОБРА,
БО КОЖНЫ З ВАС МОЖА САБЕ ПАДУМАЦЬ:



„ХА! ДЫК І Я Ж ТАК МАГУ, ШТО ТАМ МАЛЯВАЦЬ: КРУЖОЧКІ ДЫ ТРЫКУТНІКІ!“




ЧАМУ КНІЖАЧКА ЗРОБЛЕНАЯ Ў ФОРМЕ НАТАТНІКА НА СПРУЖЫНЕ? КАБ МОЖНА БЫЛО ЛЁГКА ВЫДЗЕРЦІ З ЯЕ АРКУШ З ТЫМ, ШТО ВЫ ЎВЕСЬ ЧАС БЛЫТАЕЦЕ – І ПАВЕСІЦЬ НА СЦЕНКУ, КАБ ЗАПАМІНАЦЬ. АБО АДПРАВІЦЬ

ПОШТАЮ СЯБРУ. АБО ПРЭЗЕНТАВАЦЬ СЯБРОЎЦЫ.






ГЭТАЯ КНІЖАЧКА НАРАДЗІЛАСЯ ІНТЭРАК-ТЫЎНА — ЛЮДЗІ ПАКІДАЛІ СВАЕ. ЗАМОВЫ ПАД МАЛЮНАЧКАМІ ЦІ ПАДКАЗВАЛІ ІХ АЎТАРУ АСАБІСТА. НА ГЭТЫХ 112 МАЛЮНАЧКАХ. ЗАМОВЫ НЕ СКАНЧАЮЦЦА, ВОСЬ ТОЛЬКІ ЦЯПЕР АЎТА-РАМ РОБІЦЦА КОЖНЫ З ВАС. І КАЛІ СЯБРА СПЫТАЕЦЦА: „СЛУХАЙ, А ЯК МНЕ ЗА-ПОМНІЦЬ ГЭТАЕ СЛОВА?“ — ВЫ ЎЖО ВЕДАЕЦЕ, ШТО РАБІЦЬ!

МЕСЦА ДЛЯ ВАШЫХ ЗАМАЛЁВАК



# Цяпер і зараз

Цяпер вясна, на дварэ ўвесь час ідзе дождж...



Зараз пайду ў краму — набуду табе парасон!





# САБЕ / СЯБЕ ТАБЕ / ЦЯБЕ




Я люблю (каго?) сябе / цябе (Вінавальны склон)

(2) Набуду (каму?) сабе / табе (Давальны склон).

СТУЛ КРЭСЛА ФАТЭЛЬ

У мяне вадкі стул...






У мяне выго́днае крэсла!



У мяне шыкоўны фатэль!





СТУЛ = НАДВОРАК = ВЫПАРАЖНІ (рас. „испражнения")

ВЫГОДНЫ = ЗРУЧНЫ

# ДЫВАН і КАНАПА

А ты сядай на дыван!

ТАК!







Мякка табе на канапе?






# ГАСПАДАРКА і ГАСПАДЫНЯ







У ДОБРАЙ ГАСПАДЫНІ ГАСПАДАРКА ДАГЛЕДЖАНАЯ!?














ЕЛКА





ЕЛКА!





ЁЛКА?!

(= ГОРКА!)





КРЫКНІ, КАБ ПАЦАЛАВАЛІСЯ!

ЁЛКА!





ЯЛІНКА



ЛЮБЛЮ КАЛЯДЫ...



ГРАЦЬ






ГУЛЯЦЬ







ШПАЦЫРАВАЦЬ











# Нядзеля і Тыдзень

1 2 3 4 5 6 (7)

| пн | аўт | сер | чц | пт | сб | нд |
| --- | --- | --- | --- | --- | --- | --- |
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |






## ВЫ́ПАДАК

ПРАВІЛЬНА КАЗАЦЬ ВЫ́ПАДАК.
ЗАПОМНІЎ, ВЫ́РАДАК?
ЦЯПЕР ВЫ́МАВІ!





## ІСНУ́Е

ЗАПОМНІ:
ІСНУ́Е — ЯК І МАЛЮ́Е, ПАЛЮ́Е, ВАНДРУ́Е...





## СПІ́НА

СПІ́НА — ЦЕЛА ПАЛАВІ́НА





МОЙ ПАЭТ

ЛЕПШ КАЗАЦЬ „ПАЛОВА“

Шэры
сабака
(м. р.)




Ёй, як і ты,
доўбень, —
мужчынскага
роду!..





Белая
гусь (ж. р.)



Няўжо ўсе
жанчыны такія
вытанчаныя,
як ты і яна?





Не, толькі я...

# Мытня і лазня



## АДКРЫЦЬ




## АДЧЫНІЦЬ




## АДАМКНУЦЬ




## РАСПЛЮШЧЫЦЬ



# ВЫ́ГАДНА і ВЫГО́ДНА

Але ж выгадна па крамах пахадзіла!?







Вельмі выгодная канапа!?

ВЫ́ГАДНА =
НА ДОБРЫХ УМОВАХ, З КАРЫСЦЮ, ПРЫБЫТКАМ

ВЫГО́ДНАЯ =
ЗРУЧНАЯ

## ФАРБАВАЦЬ



ЗАРАЗ БУДУ ФАРБАВАЦЬ ПЛОТ



## МАЛЯВАЦЬ

ПРЫГОЖА Я МАЛЮЮ, ПРАЎДА?





## РЫСАВАЦЬ / КРЭСЛІЦЬ



КАЛІ БУДЗЕШ РЫСАВАЦЬ НАШ ДОМ?





РЫСАВАЦЬ — АД „РЫСА, РЫСКА“ = КРЭСЛІЦЬ (РАС. „ЧЕРТИТЬ“)

# БУДОВА ФРАЗЫ

МОВУ ТРЭБА АДЧУВАЦЬ!



- ДЗЯКАВАЦЬ КАМУ? (А НЕ КАГО)
- АЖАНІЦЦА З КІМ? (А НЕ НА КІМ)
- ЗАГАДЧЫК ЧАГО? (А НЕ ЧЫМ)
- ЗАХВАРЭЦЬ НА ШТО? (А НЕ ЧЫМ)
- ЗДЗЕКВАЦЦА З КАГО? (А НЕ НАД КІМ)
- ДОГЛЯД ДЗІЦЯЦІ (А НЕ ЗА...)
- ЗА ТРЫ КІЛАМЕТРЫ (А НЕ Ў ТРОХ)

ЯК ГЭТА ЎСЁ ЗАПОМНІЦЬ?..





У-Ў-У-Ў!

# ШУФЛЯДА і МЯНТАШКА







1 БЕЛ. СЛОВА = 3 РАС.







1 БЕЛ. СЛОВА = 5(!) РАС.

Добры → лепшы → найлепшы / самы лепшы



МАСЛА




АЛЕЙ




АЛІВА



# НАДВОР'Е І ПАГОДА




(РАС.) ПОГОДА = (БЕЛ.) НАДВОР'Е

(БЕЛ.) ПАГОДА = ДОБРАЕ НАДВОР'Е

# У Беларусі, НА Случчыне




У (краіне)

~~НА~~ Украіне ~~НА~~ Беларусі
~~НА~~ Літве

(V) НА Палессі, НА Мальдывах

НА (вобласць, тэрыторыя, мясцовасць, востраў)

ЗА ТРЫ КІЛАМЕТРЫ / У ТРОХ КІЛАМЕТРАХ



ЗА ТРЫ КІЛАМЕТРЫ АД ВЁСКІ СТАІЦЬ ЗАМАК!





У ТРОХ КІЛАМЕТРАХ — ТРЫ ТЫСЯЧЫ МЕТРАЎ.






# МАЕЦЕ РАЦЫЮ / ВЫ ПРАВЫ

ДЗЯЎЧАТЫ ЛЮБЯЦЬ КВЕТКІ !?



МАЕШ РАЦЫЮ !?







А ВЫ — ЛЕВЫ

ВЫ ПРАВЫ

(22) МАЕЦЕ РАЦЫЮ = СЛУШНА КАЖАЦЕ = ВАШАЯ ПРАЎДА !

# ЗДЗЕЙСНІЦЬ | ЗРАБІЦЬ | УЧЫНІЦЬ

| пазітыўнае/ гераічнае | нейтральнае | (нарабіць) негатыўнае |
|---|---|---|




задуму, мрою, жаданне, мэту, учынак (гераічны)

злачынства, напад, замах, забойства

| АДЗІН | АДНА | АДНО |
| --- | --- | --- |
| АДНАГО | АДНУ | АДНАГО |
| (М – М) | (Ж – Ж) | (М – Ж, Н. Р., МАЛАДЫЯ ЛЮДЗІ, ІСТОТЫ) |









| | | |
| --- | --- | --- |
| БРАТЫ ДАПАМАГАЮЦЬ АДЗІН АДНАМУ | ЖАНЧЫНЫ ГУТАРАЦЬ АДНА З АДНОЙ | ХЛОПЕЦ І ДЗЯЎЧЫНА КАХАЮЦЬ АДНО АДНАГО, А ДЗЕЦІ ЛЮБЯЦЬ АДНО АДНАГО |

# ПАЎМЕ́СЯЦА, ПАЎГО́ДА, ПАЎГАДЗІ́НЫ









---

ПАЛОВА ГОДА = ПАЎГОДА (НЕ ПОЎГАДЫ!)

ПАЛОВА МЕСЯЦА = ПАЎМЕСЯЦА (НЕ ПОЎМЕСЯЦЫ!)

ПОЎ-: толькі пад націскам — по́ўдзень, по́ўнач

# Клічны склон

Глебе, малюй прыгажэй!

Спадару, колькі часу?

Краю мой родны!..

Народзе мой, абуджайся!



Максіме, паясы ткалі толькі мужчыны.

Мікалаю, хадзі ў школу!

Спадару Дырэктару, калі адкрыецца спартовая зала?

# ДЗЯЎЧЫНКА – ДЗЯЎЧАТКІ
# ДЗЯЎЧЫНА – ДЗЯЎЧАТЫ









сем дзяўчын

2, 3, 4 — дзяўчынкі, дзяўчыны

5, 6, 7, шмат — дзяўчат, дзяўчатак

# АСАБІСТЫ і АСАБОВЫ




АСАБІСТЫ — УЛАСНЫ, ПЕРСАНАЛЬНЫ

АСАБОВЫ — МАЕ ДАЧЫНЕННЕ ЎВОГУЛЕ ДА АСОБЫ, ДА ШМАТЛІКІХ ЛЮДЗЕЙ

# НА ДВАРЫ / НА ДВАРЭ




НА ДВАРЫ = У ДВАРЫ НА ДВАРЭ = НА ВУЛІЦЫ

# Бескарысны і бескарыслівы















Бескарысна — марна, дарэмна, без сэнсу

Бескарысліва — без выгады і патаемнага намеру ці мэты

# КРОПКА І ПУНКТ











Кропка – знак на пісьме, у матэматыцы, музыцы; нешта малое! Кропка ад цвіка

Пункт: гандлёвы, агнявы, кіпення, апоры...

# Дзейны і Дзейсны








# ДЗЯДУЛЕЎ / БАБУЛІН

М.Р. -аў, -еў, -оў, -ёў

Ж.Р. -ін, -ын







Чый?

Алесеў (хлопца), старшынёў, Лойкаў

Чый?

сястрын, дачцын, матчын, Алесін (дзяўчыны)

# ВІНАВАТЫ / ПАВІНЕН / МАЕ / МУСІЦЬ
(ВІННЫ)







ВІНАВАТЫ/ВІННЫ/ВІНЕН = У ЗДАРЭННІ/ГРОШЫ

ПАВІНЕН = АБАВЯЗАНЫ (АСОБА ЦІ З'ЯВА)

МАЕ = МОЖА, АЛЕ НЕ АБАВЯЗКОВА

МУСІЦЬ = АБАВЯЗКОВА, БЕЗ ВАРЫЯНТАЎ

# ІМША ДЫ ІМЖА




ХАДЗЕМ У КАСЦЁЛ — ІМША ХУТКА ПАЧНЕЦЦА!




АЛЕ ТРЭБА ПАРАСОН УЗЯЦЬ — УВЕЧАРЫ ІМЖЭЦЬ БУДЗЕ.

# Лю́дскі і Людскі́

НЯМА ЧАГО ЛЮДСКІ́Я САСІСКІ ЕСЦІ!?






ЧАГО ТЫ З ІМ ТАК НЕ ПА-ЛЮ́ДСКУ?





ЛЮДСКІ́ = НАЛЕЖЫЦЬ ЧАЛАВЕКУ АБО ЎЛАСЦІВЫ ЯМУ

ЛЮ́ДСКІ = ГУМАННЫ, ЧАЛАВЕЧНЫ, ПРЫСТОЙНЫ

# ДЗЯЎБЦІ І БРАЦЦА















клюе

клюе

# АБЦАС, ПАДАБЦАСНІК



# ВЕК і СТАГОДДЗЕ










ВЕК = УЗРОСТ

# ДАЛОНЬ, СЫРОВАТКА, ТАЛЕРКА

А ЧАМУ Ў ІХ УСЁ НААДВАРОТ?

| BLR | RUS |
| --- | --- |
| ДАЛОНЬ | ЛАДОНЬ |
| СЫРОВАТКА | СЫВОРОТКА |
| ТАЛЕРКА | ТАРЕЛКА |

ПЭЎНА, ЯНЫ Ў ШКОЛЕ КЕПСКА ВУЧЫЛІСЯ...








# ГУЗІК





НА ЯКІ ГУЗІК НАЦІСНУЦЬ, КАБ МУЗЫКУ СЛУХАЦЬ?




СКАЖЫ ЛЕПШ, НАШТО ТЫ МНЕ СТОЛЬКІ ГУЗІКАЎ ПРЫШЫЛА?..





ГУЗІК=КНОПКА

# Свойская жывёла

А чаму нашыя суседзі называюць свойскую жывёлу хатняй?





Ну, наш свойскі кот таксама жыве ў хаце...



Мяу!









# СПАДЗЕЎ і НАДЗЕЯ







НАДЗЕЯ –
НА~~ДЗЕ~~ЯЦЦА?

СПАДЗЕЎ – БО „СПАДЗЯВАЦЦА“

# СЛУХАЎКА і СТЫРНО







БЫЦЬ ЗА СТЫРНОМ = КІРАВАЦЬ АЎТАМАБІЛЕМ

# ЛІСТ і АРКУШ


Прынясі мне аркуш паперы — буду ліст пісаць!?


Годзе ўжо лістаавацца — ідзі боршч вары!?
Мяў!

# ВІТАЛЬНЯ

КАКАЯ У ВАС КРАСИВАЯ ПРИХОЖАЯ!

ВІТАЛЬНЯ Ў НАС НАПРАЎДУ ФАЙНАЯ, А ГАСПАДЫНЯ – ПРЫГОЖАЯ!







# ГАРБУЗ і КАВУН

ГАРБУЗЫ СЁЛЕТА АСАБЛІВА ЎРАДЗІЛІ!









А я ВОСЬ КАВУНЫ ПАСАДЗІЎ, АЛЕ ПАКУЛЬ НІЧОГА...





# БО́ХАН і БАХА́НКА






~~БУХАНКА~~

# КОРАК і ЗАТОР

ДЗЕ ТЫ ПАДЗЕЎСЯ? НЕ МАГУ КОРКА ДАСТАЦЬ!

Я Ў ЗАТОРЫ СТАЮ!




АДКАРКАВАЦЬ ПЛЯШКУ = ДАСТАЦЬ КОРАК

# ШТУЧНЫ і АДЗІНКАВЫ

РЭСТАРАН

ШТО ГЭТА ТАКОЕ! А ЯК СЯРОД САПРАЎДНЫХ АГУРКОЎ АПЫНУЎСЯ ШТУЧНЫ?!..



ПЕРАПРАШАЮ! ТАКІЯ ВЫПАДКІ Ў НАС АДЗІНКАВЫЯ!..



# ХМАРАЧОС і ШАПІК



Не ведаю, але тут так горача, што я ўжо сама пачынаю часацца!





Ну што, чаша твой хмарачос хмары?..

ГАЗЕТНЫ ШАПІК

# Для і Дзеля

Набудзь у краме заўтра арэхаў і вяршкоў — для торта спатрэбяцца.

Дзеля такое нагоды я схаджу ў краму проста зараз!?









# ЛЮСТРА і ЖЫРАНДОЛЬ





САПРАЎДНАЙ
ПАНЕНЦЫ ПАТРЭБНА І
ВЯЛІКАЕ ЛЮСТРА, І
МАЛЕНЬКАЕ ЛЮСТЭРКА!

ЛЮСТРА =
ЛЮСТЭРКА



А КАБ ТЫ СЯБЕ
ЛЕПШ БАЧЫЛА, Я
ВУНЬ ЯКУЮ ЖЫРАНДОЛЬ
ЗМАЙСТРАВАЎ!



# ГАЗ і ГАЗА




ГАЗОЎКА = ГАЗНІЦА = ГАЗАВАЯ ЛЯМПА

# Лецішча і лётнішча



Летам
беларусы
едуць
на лецішча






А ўзімку —
на лётнішча
ды ў
Егіпет!







# НАЗВЫ ПАЛЬЦАЎ



# МЕДАЛЬ (м.р.) і ЗАЛА (ж.р.)

КАЛІ Я БУДУ АТРЫМЛІВАЦЬ ЗАЛАТЫ МЕДАЛЬ — МНЕ БУДЗЕ ПЛЯСКАЦЬ УСЯ АКТАВАЯ ЗАЛА!

ХОЧАШ, Я ТАБЕ ШАКАЛАДНЫ МЕДАЛЬ ПАДАРУЮ І ПАПЛЯСКАЮ?











# СТОЛ і СТОЛЬ


А ЯК ПАДЛОГУ ФАРБАВАЦЬ БУДЗЕШ?


ЗАЛЕЗ НА СТОЛ — ФАРБУЮ СТОЛЬ!


МЯЎ!



# У грыбы, У ягады, НА рыбу











У ЯГАДЫ → У ЛЕС

ПА ЯГАДЫ → ДА СЯБРОЎКІ

# ПЛОШЧА і ПЛЯЦ




ПЛОШЧА КРУГА ДЛЯ МЯНЕ— ЗАГАДКА!



~~ПЛЯЦ КРУГА~~





ДЗЕ ТУТ ПЛОШЧА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ?



ТАМ ЖА, ДЗЕ І ПЛЯЦ!



ПЛОШЧА = ПЛЯЦ

# ДОГЛЯД, АГЛЯД, НАГЛЯД




ДОГЛЯД (ДЗІЦЯЦІ)
АГЛЯД = НАДГЛЯД (НА МЯЖЫ)

# ПОЗІРК і ПОГЛЯД

У цябе такі позірк, нібыта ты з'еў мае цукеркі!



Твой погляд на справу мне не вельмі падабаецца.








кінуць позірк = зірнуць

# КОНІКІ і КОНІ









# АБРУС і ЦЫРА́ТА








# Свет і святло



# ПОСУД


патэ́льня


паўмі́сак


тале́рка


збан


мі́ска


лы́жка


ві́дэлец


накры́ўка

ро́ндаль


філіжа́нка

спо́дачак


шкля́нка


нож


ку́бак


ке́ліх


і́мбрык





бутэ́лька


ча́рка, кі́лішак



сло́ік



ку́халь (ку́фаль)

# РОГ, ВУГАЛ, КУТ



Чакаю цябе на рагу вуліцы.





Увесь час стукаюся аб гэты вугал стала!







З'еў сасіскі — будзеш сядзець у куце!





# СТАСУНКІ І ВАРУНКІ







ВАРУНКІ = СІТУАЦЫЯ, СТАНОВІШЧА, ЎМОВЫ

СТАСУНКІ – ЗНОСІНЫ, УЗАЕМІНЫ, КАНТАКТЫ

# БАГАТЫР і АСІЛАК/ВОЛАТ



# ГАДАВАЦЬ




МЯНЕ ГАДАВАЛА БАБУЛЯ, А САМ Я ЦЯПЕР ГАДУЮ САД








ГАДАВАЦЬ- ВЫХОЎВАЦЬ, ДАГЛЯДАЦЬ

ГАДАВАЦЬ- РАСЦІЦЬ

# ВАЙСКОВЫ і ВАЕННЫ










Была на
вайсковым
парадзе —
бачыла вайсковую
тэхніку

А я ў гэты
дзень глядзеў
ваенныя
фільмы!







ВАЙСКОВЫ —
ад войска

ВАЕННЫ —
ад вайна

# Ямо, дамо — ясце, дасце




| Мы | Вы |
| --- | --- |
| ямо (ядзім) | ясце (ясцё) |
| дамо (дадзім) | дасце (дасцё) |
| з'ямо (з'ядзім) | аддасце (аддасцё) |

# УПРЫГОЖАННЕ і ЎПРЫГОЖВАННЕ











# ЖАДАЦЬ і ЗЫЧЫЦЬ

АДКУЛЬ ТЫ ДАВЕДАЎСЯ, ШТО Я ЖАДАЛА МЕНАВІТА КІЕЎСКІ ТОРТ?!





ЗЫЦУ ТАБЕ БЫЦЬ ГЭТКАЙ ЖА ПРЫГОЖАЙ ЯК ЦЯПЕР!?



ЖАДАЦЬ = ПРАГНА ХАЦЕЦЬ НЕЧАГА

# АСАДКА і КРУЖЭЛКА



Ты не ведаеш, дзе можна набыць новую кружэлку Вольскага?



Давай асадку — пазначу табе адрас PRASTORA.BY!











АСАДКА = РУЧКА (для пісання)

КРУЖЭЛКА = КАМПАКТ-ДЫСК

# КАЛЫСКА і ВАЗОК



# ВОЎНА і БАВОЎНА

Будзе мне на зіму сукенка з воўны!♡

А я набыў сабе баваўняную цішотку!









ЦІШОТКА = МАЙКА

ВОЎНА — ТОЛЬКІ з авечкі, іншае — поўсць, шэрсць

# ІНТАРЭС І ЦІКАВАСЦЬ

З ЦІКАВАСЦЮ
ГЛЯДЖУ
СПАРТОВЫЯ
ГУЛЬНІ, БО ГЭТА
ТАК ПРЫГОЖА!









А Я МАЮ ЯШЧЭ
І ІНТАРЭС, БО
ЗРАБІЎ СТАЎКІ
НА БЕЛАРУСКУЮ
ЗБОРНУЮ!



# А ШОСТАЙ ГАДЗІНЕ

ПАБУДЖУ ЦЯБЕ А ШОСТАЙ РАНІКУ,
ПАЕДЗЕШ НА ЭКСКУРСІЮ Ў НЯСВІЖ!






ЛЕПШ А ШОСТАЙ ДВАЦЦАЦЬ ЦІ
А ПАЛОВЕ СЁМАЙ,
БО ПА МЯНЕ ЗАЕДУЦЦА






$18^{20}$ =
ДВАЦЦАЦЬ
НА СЁМУЮ

А ПАЛОВЕ СЁМАЙ =
А ПАЛОВЕ НА СЁМУЮ

# МУ́ЛЯР І МАЛЯ́Р

Я НА ВАКАЦЫЯХ ПАЙШОЎ МУ́ЛЯРАМ ПРАЦАВАЦЬ —
КЛАДУ ПЕЧЫ І СЦЕНЫ






# ШАВЕ́Ц, КРАВЕ́Ц, КУШНЕ́Р









# ДО́БРА і БЛАГА




Уяўляеш, барадаты дзядзька пажадаў, каб мне было блага!..



Дабра ад такога дакладна не чакай!



ЯК? – БЛА́ГА (КЕПСКА, ДРЭННА) ЯК? – ДО́БРА

# ТВАР



Брыво (бровы)
Вейкі
скроні
ВУХА
шчокі
ву́сы (?)
шчаціннe
ПАДБАРОДДЗЕ
РОТ
ЛОБ (ілба-р.с.)
ВОКА (вочы
РАДЗІМКА
ЗРЭНКА (зрэнкі)
ПАТЫЛІЦА (не відаць)
НОС
ВУСНЫ
ШЫЯ
БАРАДА

# КАНЕЧНЕ і ВЯДОМА







 КАНЕЧНЕ = АБАВЯЗКОВА ВЯДОМА = НАПЭЎНА *

# УПУСЦІЦЬ

















УПУСЦІЦЬ = ВЫПУСЦІЦЬ (З РУК)

# ТРУС, ЗАЯЦ, БАЯЗЛІВЕЦ




ТРУС = КРОЛИК (РАС.)

БАЯЗЛІВЕЦ = ТРУС

# З-ЗА і ПРАЗ







ПРАЗ ГЭТА = З-ЗА ГЭТАГА,
З ГЭТАЙ ПРЫЧЫНЫ

# УСЦЯ́Ж І НАЦЯНЬКІ









НАЦЯНЬКІ — НАЙПРОСТ, НАЙКАРАЦЕЙШАЙ ДАРОГАЙ

УСЦЯЖ — УЗДОЎЖ (1), ПА ЎСЁЙ ПРАСТОРЫ (2)

# ПАСПРАБАВАЦЬ, ПАКАШТАВАЦЬ, ПАЧАСТАВАЦЬ




ПАКАШТАВАЦЬ = ПАСПЫТАЦЬ

# УСТУПАЦЬ і САСТУПАЦЬ

ШТО ТЫ!? Я ЗАЎСЁДЫ САСТУПАЮ МЕСЦА ДЗЯЎЧАТАМ!?

АСЦЯРОЖНА, НЕ ЎСТУПІ!?



ГАЎ!









# УБІЦЬ і ЗАБІЦЬ











# ДРУГІ ды ІНШЫ







іншы = інакшы | другі: 1, ②

# У ПА́ЛЕ / У ПЫЛЕ

У ПАЛЕ
КАХАННЯ
Я ГАТОВЫ
НА ЎСЁ!

ДЛЯ ПАЧАТКУ МОЖНА
ПРАПЫЛАЧЫЦЬ ХАТУ,
А ТО СЯДЗІМ
ТУТ
У ПЫЛЕ!








# АДЗЕЦЬ, НАДЗЕЦЬ, АПРАНУЦЬ










РАСПРАНУЦЦА = ЗНЯЦЬ ПАЛІТО

АДЗЕННЕ – <u>ТОЛЬКІ</u> АДЗЕЦЬ, НАДЗЕЦЬ

ВОПРАТКА (ВЕРХНЯЕ АДЗЕННЕ) > АПРАНУЦЬ, РАСПРАНУЦЬ, АДЗЕЦЬ, НАДЗЕЦЬ

НАДЗЕЦЬ: СЛУХАЎКІ, ГАДЗІННІК

РАЗДЗЕЦЦА = ЗНЯЦЬ МАЙКУ

# НА КУХНІ

смажым на тлушчы ←



яйкі → ooo oo



САКРЭТЫ МАЛАДОЙ ГАСПАДЫНІ!

ЛОКШЫНА

МАКАРОНА (толькі адз.)

П'ем каву і гарбату



з печывам

АЎСЯНАЕ

вяршкі

і цукрам

СЛУЦКІ ЦУКАР

ды цукеркамі




ЯЛАВІЧЫНА — МЯСА АД КАРОВЫ

ГРЭЧКА ← грэцкія крупы

воцтам гасім соду

СОДА

А калі няма грошай — купляем кілбасу ПРЫМА

бляшанка кансерваў → КІЛЬКА

гароднiна:



цыбуля

бурак

памідор →



агурок

морква



# РОДНЫ СКЛОН

| КАНКР. ПРАДМЕТЫ; РЭЧЫ, ШТО ПАДДАЮЦЦА ЛІЧЭННЮ | –А, –Я | НАЙМЕННІ МЕРАЎ, НАЗОВЫ АДЗІНАК |
|---|---|---|

БУРАКА КАЎНЯРА
КОМІНА СШЫТКА

МЕТРА ГРАМА ТЫДНЯ
ЖНІЎНЯ ПАНЯДЗЕЛКА
ТАЛЕРА МІЛЬЁНА
АЛЕ: АБЕДУ, ВЕКУ, РАНКУ (!)

**ЧАСТКІ ЦЕЛА ЧАЛАВЕКА І ЖЫВЁЛІН**

ЗУБА ІЛБА
ЯЗЫКА АЛЕ: ТВАРУ (!)

**НАВУКОВЫЯ ТЭРМІНЫ**

АПОСТРАФА КВАДРАТА КУБА
НАЗОЎНІКА СКАЗА ТРЫКУТНІКА

**НАЗВЫ НАСЕЛЕНЫХ ПУНКТАЎ**

МІНСКА ПОЛАЦКА
СЛУЦКА НЯСВІЖА

**НАЗ. НА -ОК, -К: КАНКР. ПРАДМЕТЫ, ДЗЕЯННІ**

КІДКА СКАЧКА АБЦІНКА








# РОДНЫ СКЛОН

| РЭЦЫЎНЫЯ | -У, -Ю | ДЗЕЯННІ, ПРАЦЭСЫ |
|---|---|---|
| БАЛЬЗАМУ | АДЦЯГНЕНЫЯ ПАНЯТКІ | ВЫСТУПУ |
| МЁДУ | ВЫСТУ | ЭКЗАМЕНУ МАТЧУ |
| СУПУ | АБАВЯЗКУ | КОНКУРСУ |
| БІФШТЭКСУ | ГУСТУ | ФЕСТЫВАЛЮ |
| З'ЯВЫ ПРЫРОДЫ | ДОСВЕДУ | ТУРНІРУ |
| ТУМАНУ ГРОМУ | ФОРМЫ ПРАСТОРЫ | |
| АГНЮ | АБШАРУ БЕРАГУ КРАЮ | |
| СТАНЫ | КРАЯВІДУ МАСІВУ | |
| ЖАЛЮ БОЛЮ | ПАРКУ САДУ | |
| АПЕТЫТУ РАДЫКУЛІТУ | | |






# ЖАНОЧАЕ АДЗЕННЕ



























# МУЖЧЫНСКАЕ АДЗЕННЕ

# ВІТАННІ



ЗДАРОЎ!
ВІТАЮ!
ПРЫВІТАННЕ!
ЗДАРОЎКІ!
ЧАЛОМ!
ДАБРЫДЗЕНЬ!
ЗДАРОЎ БУДЗЬ!

БЫВАЙ!
УСЯГО!
ПАКУЛЬ!
ДА СУСТРЭЧЫ!
ПАБАЧЫМСЯ!
ПАЧУЕМСЯ!
ДА ПАБАЧЭННЯ!





МЯЎ!



# КАПІЯВАЦЬ, ФАРМАВАЦЬ










~~КАПІРАВАЦЬ~~ КАПІЯВАЦЬ
~~ФАРМІРАВАЦЬ~~ ФАРМАВАЦЬ
~~АРХІВІРАВАЦЬ~~ АРХІВАВАЦЬ

СУФІКС -ІРАВА- ЧУЖЫ ДЛЯ НАШАЙ МОВЫ!

# СЯБРА і СЯБАР

ТЫ — МОЙ НАЙЛЕПШЫ СЯБАР!

ТАБЕ ПАШЧАСЦІЛА, ШТО Я НЕ ТОЛЬКІ ТВОЙ СЯБРУК, АЛЕ І СЯБРА ТАВАРЫСТВА АМАТАРАЎ КВЕТАК.







У АРГАНІЗАЦЫІ:
СЯБРА, ЧАЛЕЦ (АФІЦ.)

У ЧАЛАВЕКА:
СЯБАР, СЯБРУК,
СЯБРА, ДРУЖБАК

# АРГАНІЗАЦЫЯ і АРГАНІЗАВАННЕ










АРГАНІЗАЦЫЯ – УСТАНОВА

АРГАНІЗАВАННЕ – ПРАЦЭС

# Злучнікі і, ды

Мама і тата вучаць мяне спяваць ды танчыць

A-V-E M-A-A-A-R-I-A!..







А мае бацькі вандруюць цяпер па Італіі ~~ў~~ды Францыі...

**і = ды**

(104) ① гэта і гэта, гэта ~~ў~~ ды гэта ② Іспаніі ~~ў~~ ды Італіі

# ПЯЦЁРА ВУЧАЦЦА, БОЛЬШАСЦЬ ВУЧЫЦЦА

Пяць маіх сябровак вучацца кіраваць машынаю






Тым часам большасць паненак вучыцца смачна гатаваць.



2, 3, 4, 500, 1000... } вучацца

большасць, меншасць, частка } вучыцца

# ЗАВУЗКІ, ЗАХАЛОДНЫ










<u>ЗА</u>ДАЛЁКА = ЗАНАДТА ДАЛЁКА

<u>ЗА</u>ВУЗКІ = ЗАНАДТА ВУЗКІ

# МУРЫН і ЖЫД







БЕЗ АДМОЎНАГА ЗНАЧЭННЯ!?

МУРЫН = НЕГР, ЦЕМНАСКУРЫ ЧАЛАВЕК ЖЫД = ЯЎРЭЙ, ГАБРЭЙ

# ДЗЯКАВАЦЬ, ПАДЗЯКАВАЦЬ
(КАМУ?) (КАМУ?)







ДЗЯКАВАЦЬ = ДЗЯЧЫЦЬ

ПАДЗЯКАВАЦЬ = ПАДЗЯЧЫЦЬ

ДЗЯКУЮ ~~ЦЯБЕ~~ ТАБЕ

ПАДЗЯКАВАЦЬ ~~ЯГО~~ ЯМУ

# ПУШКА і ГАРМАТА

МУЗЕЙ

ХАЧУ САБЕ НА НАРОДЗІНЫ ТАКУЮ ГАРМАТУ!?

А МНЕ, КАЛІ ЛАСКА, ПУШКУ ЦУКЕРАК!?







ПУШКА = КАРОБКА

ПУШКА ЗАПАЛАК



# СПОР і СПРЭЧКА



# НАЗВЫ ЯГАД І ГРЫБОЎ

МАСЛЯК

БАБКА/АБАБАК (ПАДБЯРЭЗНІК)

АСАВІК (ПАДАСІНІК)

СЫРАВЕЖКА

КАЖУЦЬ, ШТО ЎСЕ ГРЫБЫ — ЯДОМЫЯ, АЛЕ НЕКАТОРЫЯ — ТОЛЬКІ АДЗІН РАЗ!..



ЦІКАВА, У ГОНАР КАГО ГЭТЫЯ ЯГАДЫ ДУРНІЦАМІ НАЗВАЛІ?..



УСЕ ЯГАДЫ — ТОЛЬКІ МНОЖНЫ ЛІК?

ПАРЭЧКІ („СМОРОДИНА")

КЛУБНІЦЫ/ТРУСКАЛКІ

АЖЫНЫ („ЕЖЕВИКА")

БРУСНІЦЫ



БУЯКІ — „ГОЛУБИКА" (ДУРНІЦЫ)

СУНІЦЫ („ЗЕМЛЯНИКА")

АПЕНЬКА



БАРАВІК (ШЧЫРЫ ГРЫБ)

ЖУРАВІНЫ („КЛЮКВА")

МАЛІНЫ



# СКУРА і ШКУРА



У мяне вельмі далікатная скура, узімку яна патрабуе асаблівага дагляду!

А я ведаю, дзе ўзяць шкуру табе на футра...



















# МІЖНАРОДНЫ

## ТРАНСПАРТНА-ЛАГІСТЫЧНЫ АЛЬЯНС КАМПАНІЙ

# FABEAS.BY

МЫ РОБІМ ЛАГІСТЫКУ ЛАГІЧНАЙ








ЧУЛА, ШТО НАШЫЯ ТРАКТАРЫ ЭКСПАРТУЮЦЦА НАВАТ У АФРЫКУ!?

ХАЙ БЫ ЯНЫ НАЎЗАМЕН НАМ ВЯРБЛЮДАЎ ІМПАРТАВАЛІ!?






ЭКСПАРТ – калі нейкі тавар вывозіцца з беларусі ў замежныя краіны




ІМПАРТ — ГЭТА КАЛІ ТАВАР З ЗАМЕЖНЫХ КРАІН ЗАВОЗІЦЦА Ў БЕЛАРУСЬ

| | |
| --- | --- |
| ФАБЕАС<br>fabeas.by<br>(+37517) 336.10.39 | SUNWELL<br>sunwell.lv<br>(+37517) 336.10.50 |
| ВІТАЎТ<br>vitovtspb.ru<br>(+37517) 336.10.36 | RAGNEDA<br>ragneda.lv<br>(+37529) 623.12.75 |

# СЛОЎНІК



## ЦІКАВЫХ СЛОВАЎ



А́БРУ́С – СКАТЕРТЬ

АБША́Р – ПРОСТОР, ПРОСТРАНСТВО

АБЦА́С – КАБЛУК

АБЦІ́НАК – ОБРЕЗОК, ОБРУБОК

А́ГЛЯД – ОСМОТР, ОБОЗРЕНИЕ, ОБЗОР

АДЗЁ́Р – КОРЬ

АЛЕ́Й – МАСЛО (ЖИДКОЕ)

АЛІ́ВА – МАШИННОЕ МАСЛО

А́РКУШ – ЛИСТ БУМАГИ (1) ПЕЧАТНЫЙ ЛИСТ (2)

АСА́ДКА – РУЧКА (ДЛЯ ПИСЬМА)



БАВО́ЎНА – ХЛОПОК

БАГАТЫ́Р – БОГАЧ

Бескары́сліва – бескорыстно

Бескары́сна – бесполезно

Бляша́нка – жестянка





Вазо́к – коляска

Вару́нкі – условия

Ве́йка – ресница

Ве́к – возраст

Ве́ршнік – всадник

Віта́льня – прихожая

Во́лат – богатырь, великан

Во́ўна – овечья шерсть

Во́цат – уксус

Вы́годна – удобно

Вяршкі́ – сливки



Га́за – керосин

Газні́ца (газо́ўка) – керосиновая лампа

Гарбу́з – тыква

ГАСПАДА́РКА - ХОЗЯЙСТВО

ГАСПАДЫ́НЯ - ХОЗЯЙКА

ГО́ДЗЕ! - ХВА́ТИТ!

ГУ́СТ - ВКУС

ГУ́ЗІК - ПУГОВИЦА (1)
КНОПКА (2)




ДЗЕ́ЛЯ - РАДИ

ДО́ГЛЯД - УХОД
(ЗА КЕМ-ЛИБО, ЧЕМ-ЛИБО)

ДО́СВЕД - ОПЫТ

ДЫВА́Н - КОВЁР



ДЗЕ́ЙНЫ - ДЕЙСТВУЮЩИЙ, НАСТОЯЩИЙ

ДЗЕ́ЙСНЫ - ЭФФЕКТИВНЫЙ



ЁЛКА (прысл.) - ГОРЬКО (нар.)






ЗБАН – КУВШИН

ЗРЭ́НКА – ЗРАЧОК





ЖЫРАНДО́ЛЬ (-ЛЯ) –
ЛЮСТРА

І́МБРЫК – ЧАЙНИК

ІМЖА́ – ИЗМОРОСЬ,
МЕЛКИЙ ДОЖДЬ



ЗА́ГАІЦЦА – ЗАЖИТЬ
(О РАНЕ)

ЗАМА́Х – ПОКУШЕНИЕ

ЗАМЫКА́ЦЬ – ЗАКРЫВАТЬ
ЧТО-ЛИБО
НА ЗАМОК

ЗА́ХАДЫ – МЕРЫ, ШАГИ

ІМША́ – МЕССА,
СЛУЖБА
В КОСТЕЛЕ

І́НТАРЭС – ЗАИНТЕРЕСОВАННОСТЬ,
ИНТЕРЕС(2), ДЕЛО(3)








КАВУ́Н – арбуз

КАГАДЗЕ́ – только что, недавно

КАЖУ́Х – тулуп

КАЛЫ́СКА – колыбель

КАМІЗЭ́ЛЬКА – жилет

КАМІ́Н – комин

КАНА́ПА – диван

КАНЕ́ЧНЕ – обязательно

КАЎНЕР – воротник

КЕЛІ́Х – бокал

КЕ́ПСКА – плохо

КО́МІН – печная труба

КО́НІК – кузнечик

КО́РАК – пробка

КРАВЕ́Ц – портной

КРАЯВІ́Д – пейзаж

КРУЖЭ́ЛКА – компакт-диск, пластинка

КУ́БАК – чашка(1), кубок(2), кружка

КУ́ХАЛЬ – пивная кружка

КУШНЕ́Р – меховщик, скорняк






ЛА́ЗНЯ – БАНЯ

ЛЕ́ЦІШЧА – ДАЧА

ЛЁ́ТНІШЧА – АЭРОПОРТ

ЛІ́СТ – письмо(1), лист бумаги(2), растения(3)

МУ́ЛЯР – КАМЕНЩИК, ПЕЧНИК

МЫ́ТНЯ – ТАМОЖНЯ

МЯНТА́ШКА – ПЛОСКИЙ БРУСОК ДЛЯ ЗАТОЧКИ КОСЫ










МАЙТКІ́ – ТРУСЫ

МА́РА (МРО́Я) – МЕЧТА

НАГАВІ́ЦЫ – БРЮКИ, ШТАНЫ

НАГЛЯ́Д – присмотр, наблюдение, надзор

НА́КРЫЎКА – КРЫШКА

НАЦЯНЬКІ́ – НАПРЯМИК

НЯДЗЕ́ЛЯ – ВОСКРЕСЕНЬЕ



ПАГО́ДА – ХОРОШАЯ ПОГОДА

ПАДЛО́ГА – ПОЛ

ПАЛ – СТРАСТЬ (1), ЖАР (2)

ПАНЧО́ХІ – ЧУЛКИ

ПА́РА – ПАР

ПАРАСО́Н – ЗОНТИК

ПАТЫ́ЛІЦА – ЗАТЫЛОК

ПАТЭ́ЛЬНЯ – СКОВОРОДА

ПАЎМІСАК – НЕГЛУБОКАЯ МИСКА

ПА́ЦЕРКІ – БУСЫ

ПО́РТКІ – БРЮКИ, ШТАНЫ

ПО́ЎДЗЕНЬ – ЮГ (1), ПОЛДЕНЬ (2)

ПО́ЎНАЧ – СЕВЕР (1), ПОЛНОЧЬ (2)

ПЫЛ – ПЫЛЬ





РАСПЛЮ́ШЧВАЦЬ – ОТКРЫВАТЬ (ГЛАЗА)

РА́ЦЫЯ – ПРАВОТА, РЕЗОН

МЕ́ЦЬ РА́ЦЫЮ – БЫТЬ ПРАВЫМ

РО́ВАР – ВЕЛОСИПЕД

РОГ – УГОЛ (УЛИЦЫ, СТОЛА..), РОГ (ЖИВОТНОГО)

РО́НДАЛЬ – КАСТРЮЛЯ

РЫСАВА́ЦЬ – ЧЕРТИТЬ






САКО́ЛКА – МАЙКА

СВЕТ – МИР

СВО́ЙСКАЯ ЖЫВЁЛІНА – ДОМАШНЕЕ ЖИВОТНОЕ

СВЯТЛО́ – СВЕТ

сёлета – в этом году

слоік – банка

слухаўка – трубка (телефонная)

*слухаўкі – наушники

станік – бюстгалтер

стасункі – отношения

столь – потолок

стырно – руль

сукенка – платье







тлушч – жир

трус – кролик

трыкутнік – треугольник

тыдзень – неделя






усцяж – вдоль (1), по всему пространству (2)








Хмарачо́с – небоскреб



Фа́йна – хорошо, замечательно

Фатэ́ль – мягкое кресло

Філіжа́нка – чашечка

Фу́тра – шуба(1), мех(2)



Цвік – гвоздь



Цішо́тка – майка

Цыра́та – клеенка



Чараві́кі – ботинки










шаве́ц – сапожник

ша́пік – киоск

шкарпэ́ткі – носки

шкля́нка – стакан

шпацырава́ць – прогуливаться

шту́чны – искусственный

шуфля́да – выдвижной ящик (стола, тумбочки..)

я́лаві́чына – говядина

я́лінка – елка (новогодняя)





# PRASTORA.BY




КАБ БЫЦЬ ЗАЎСЁДЫ Ў ГУМОРЫ —
ЗАХОДЗЬ ПАШОПІЦЬ НА ПРАСТОРЫ!?

# Змест



24. АДЗІК АДНАГО

25. ПАЎГОДА – ПАЎМЕСЯЦА

26. КЛІЧНЫ СКЛОН

27. ДЗЯЎЧАТЫ – ДЗЯЎЧАТКІ

28. АСАБІСТЫ – АСАБОВЫ

29. НА ДВАРЭ – НА ДВАРЫ

30. БЕСКАРЫСНА – БЕСКАРЫСЛІВА

31. КРОПКА – ПУНКТ

32. ДЗЕЙНЫ – ДЗЕЙСНЫ

33. ДЗЯДУЛЕЎ – БАБУЛІН

34. ВІНАВАТЫ – ПАВІНЕН – МАЕ – МУСІЦЬ



35. ІМША – ІМЖА

36. ЛЮДСКІ – ЛЮДСКІ

37. ДЗЯЎБЦІ – БРАЦЦА

38. АБЗАЦ

39. ВЕК – СТАГОДДЗЕ

40. ДАЛОНЬ – СЫРОВАТКА – ТАЛЕРКА

41. ГУЗІК

42. СВОЙСКАЯ ЖЫВЁЛА

43. СПАДЗЕЎ – НАДЗЕЯ

44. СЛУХАЎКА – СТЫРНО

45. ЛІСТ – АРКУШ

46. ВІТАЛЬНЯ

47. ГАРБУЗ - КАВУН

48. БОХАН - БАХАНКА

49. КОРАК

50. ШТУЧНЫ - АДЗІНКАВЫ

51. ХМАРАЧОС - ШАПІК

52. ДЛЯ - ДЗЕЛЯ

53. ЛЮСТРА - ЖЫРАНДОЛЬ

54. ГАЗ - ГА́ЗА

55. ЛЕЦІШЧА - ЛЁТНІШЧА

56. НАЗВЫ ПАЛЬЦАЎ

57. МЕДАЛЬ - ЗАЛА

58. СТОЛ - СТОЛЬ

59. ГРЫБЫ - ЯГАДЫ - РЫБА




60. ПЛОШЧА - ПЛЯЦ

61. ДОГЛЯД - АГЛЯД - НАГЛЯД

62. ПОЗІРК - ПОГЛЯД

63. КОНІКІ - КОНІ

64. АБРУС - ЦЫРАТА

65. СВЕТ - СВЯТЛО

66. ПОСУД

67. РОГ – ВУГАЛ – КУТ

68. СТАСУНКІ – ВАРУНКІ

69. БАГАТЫР – АСІЛАК

70. ГАДАВАЦЬ

71. ВАЙСКОВЫ – ВАЕННЫ

72. ЯМО – ЯСЦЕ

73. УПРЫГОЖАННЕ – УПРЫГОЖВАННЕ




74. ЖАДАЦЬ – ЗЫЧЫЦЬ

75. АСАДКА – КРУЖЭЛКА

76. КАЛЫСКА – ВАЗОК

77. ВОЎНА – БАВОЎНА

78. ІНТАРЭС – ЦІКАВАСЦЬ

79. А ШОСТАЙ ГАДЗІНЕ

80. МУЛЯР – МАЛЯР

81. ШАВЕЦ – КРАВЕЦ – КУШНЕР

82. ДОБРА – БЛАГА

83. ТВАР

84. КАНЕЧНЕ – ВЯДОМА

85. УПУСЦІЦЬ

86. ТРУС - ЗАЯЦ –
БАЯЗЛІВЕЦ

87. З-ЗА – ПРАЗ

88. УСЦЯЖ-НАЦЯНЬКІ

89. ПАСПРАБАВАЦЬ –
ПАКАШТАВАЦЬ

90. УСТУПАЦЬ –
САСТУПАЦЬ

91. УБІЦЬ-ЗАБІЦЬ

92. ДРУГІ-ІНШЫ

93. У ПАЛЕ-У ПЫЛЕ

94. АДЗЕЦЬ-НАДЗЕЦЬ-
АПРАНУЦЬ

95. НА КУХНІ

96. РОДНЫ СКЛОН: -А; -Я

97. РОДНЫ СКЛОН: -У, -Ю

98. ЖАНОЧАЕ АДЗЕННЕ

99. МУЖЧЫНСКАЕ
АДЗЕННЕ

100. ВІТАННІ

101. КАПІЯВАЦЬ, ФАРМАВАЦЬ



102. СЯБРА-СЯБАР

103. АРГАНІЗАЦЫЯ-АРГАНІЗАВАННЕ

104. ЗЛУЧНІКІ І, ДЫ

105. ПЯЦЁРА ВУЧАЦЦА, БОЛЬШАСЦЬ ВУЧЫЦЦА

106. ЗАВУЗКІ, ЗАХАЛОДНЫ

107. МУРЫН І ЖЫД

108. ДЗЯКАВАЦЬ

109. ПУШКА-ГАРМАТА

110. СПОР-СПРЭЧКА

111. НАЗВЫ ЯГАД І ГРЫБОЎ

112. СКУРА-ШКУРА



скажите, как перевести на белорусский „извините, пожалуйста, я не расслышал, не могли бы вы повторить?..“




ПРАЎНЫ ПЕРАКЛАД | PPPP.BY

# ЭЛІТНАЯ МЭБЛЯ | АИРІ.ВУ

слухай,
мне падабаецца
і тая, і гэтая канапа!?

значыцца,
бярэм
абедзьве!?





МЕСЦА ДЛЯ ВАШЫХ

ЗАНАТОВАК



Глеб Лабадзенка

# Дзіцячая заМова

рэдактар Юрась Бушлякоў
вёрстка Валянціна Кляніцкая
творчы Алесь Квіткевіч
кансультант
рэцэнзент — Рыгор Барадулін

Падзякі:
Алесь Квіткевіч,
Васіль Сёмуха,
Анатоль Лазар,
чытачы
labadzenka.by



Дзіцячую заМову заМаўляй
на PRASTORa кропка BY

Слова можа ўсё.
У слова самая глыбокая памяць.
У слова самы пранізлівы зрок.
Слова давярае таму, хто багавейна
ставіцца да яго ды бароніць ад розных навалаў.
Роднае слова, крэўнае слова, нашае
крывіцкае слова — вечнае.
Глеб Лабадзенка служыць слову годна і самааддана.
У гэтай кніжцы — сумоўе досціпу, фэст
крылатага крывіцкага слова.
Малюнкі таксама прамаўляюць.
Дзіцячая замова ад злога языка гэта яшчэ і замова
як жыва слоўнік, прысяга на вернасць
роднаму краю і нашай мове.
Хто прачытае шчыра кніжку Глеба Лабадзенкі —
пабагацее душой.
Чытайце і будзьце багатымі!

Рыгор Барадулін